* * *

«Рукі назад!» – ты ідзеш на допыт.

«Рукі назад!» – ты дзяржаўны злачынца.

«Рукі назад!» – набываеш вопыт.

«Рукі назад!» – і думка, як сьпіца,

пра тое, што там красавік і суха,

дзяўчаты скінуді тоўстыя гетры,

на крушні яшчарка сушыць бруха,

і пахне гудронам асфальт нагрэты.

З рукамі назад выводзяць ва пляцык

трохкутнай формы – хадзі і думай

пра тое, як там дэфілююць грацыіі,

як там парлямэнт фліртуе з думай.

Пра радасьць успомні, калі жанчына
цябе па-крывіцку любіла штоноч,
і вы любоў запівалі «чын-чынам»,
і сьлёзы сьветлыя беглі з воч.

А «рукі назад!» – гэта ўсё часова,
я «рукі назад!» – ня страшна, калі
табою валодае вечнае Слова
і памяць пра ліпеньскі пах ральлі.

*21.IV.1996. 9-я камэра СІЗО КГБ.*

* * *

Ах, проста блакітнае неба,

проста птушка пяе,

проста цёплая глеба,

проста сонца ўстае.

Проста цьвітуць пралескі,

проста жоўты пясок,

проста сьвежыя трэскі,

проста па дрэвах сок.

Проста сяджу ў вязьніцы,

проста ем баланду,

проста ніяк ня сьпіцца,

проста нікуды ня йду.

Проста сябры на волі,

проста і ворагі там,

проста цячэ са столі,

проста жыцьцё – бэдлам.

Проста хутка асудзяць,

проста буду маўчаць,

проста сумую па людзях,

проста хачу кахаць.

*28.IV.1996.*

## Педэль

Педэль ходзіць за дзьвярыма,

педэль ведае дакладна.

як патрэбна службу правіць

у любых умовах часу,

у пару тэрору, гвалту,

летам, восеньню, зімою...

Педэль мае палку з гумы,

не турбуюць яго думы.

Педэль, наш любімы педэль,

безь цябе мы анікуды.

Дай нам, педэль, каб нам ведаць,

як хадзіць, глядзець куды,

як пазьбегнуць нам бяды.

У цябе пруток гумовы,

у цябе густыя бровы.

Педэль – гэта проста цуд.

Педэль – цаца. Педэль – гут!

Педэль слухае маўкліва.

Педэль – млын.

А мы ёсьць мліва?

*29.IV.1996. 9-я камэра СІЗО КГБ.*

## Сустрэча з афіцэрам Смаргонскага пагранатраду

– Дзень добры, палкоўнік! Я Славамір.

Будзем знаёмыя? – Будзем.

Трашчыць і рвецца ад гукаў эфір,

і рвуцца ад кашлю грудзі.

– Палкоўнік, прыступім. Вось карта і плАн.

Далей мы цярпець ня можам…

– Я ведаю, гэты паршывы клАн

Мы зьнішчым і пераможам.

– Выдатна, палкоўнік! Вы, бачу, наш,

сапраўднай касьці беларускай.

Вы будзеце нішчыць здраднікаў аж

нават на глебе рускай.

– Я буду, аднак жа, дзе нашы арлы?
Час «ч» мы павінны прызначыць.
Мы выступім ціха на самай зары,
пакуль вораг сьпіць на дачах.

Мы жаль і спагаду адкінем прэч.
За нашых жанчын і дзетак
мы будзем галовы варожыя з плеч
здымаць, як жытцо з палетак.

Атрады зьнішчальныя ўжо ў лясах,
чакаюць толькі загаду.
Што ж, кожнаму здрадніку свой пасаг.
Гатова ўсё да нападу.

– Палкоўнік, трымайце, вось вам рука,

рука не салдата – паэта.

І вып’ем давайце за колер кукард,

за бела-чырвоны. За гэта!

*9.V.1996. 9 камэра.*

## Чыстае

Яно жыве на паверхні,
на плоскасьцях каардынат,
на ніжняй вусьне, на верхняй,
пад сэрцам у нашых дзяўчат.

Іскрыцца яно ў зялёным
і ў жоўтым на сонцы блішчыць,
зрываецца кропляй з клёнаў,
у душах зьлёгку шчыміць.

Яно жыве ў пацалунках
крывіцкіх жанчын і мужоў,
у сьветлых дзіцячых малюнках
і там, дзе сьляды вужоў.

Жыве яно ў самым-самым,
на вейках нашых дрыжыць,
блішчыць у квадраце рамы
і на сталёвым нажы.

Яно жыве на сьвітаньні,
і днём, і калі паўзмрок,
і там, дзе нашы спатканьні,
і скрозь, дзе чуваць наш крок.

*19.V.1994. 9-я камэра «амэрыканкі».*

* * *

Кавалак чорнага хлеба,

нашага хлеба з нашага жыта

давай пераломім на дзьве палавіны –

табе і мне –

і абмочым у мёдзе

яшчэ не загуслым, яшчэ з пахам воску

і нашых пrасtораў.

Давай падсілкуемся, дружа,

насыцім нашыя целы

высокай энэргіяй пушчы

і гарызанталямі поля.

Пасьля стольkіх дзён паміраньня

пахнуць дажджом навальнічным
рамонкі і мята ў букеце,
які нам прынесла інкогніта
жанчына з краіны кветак.

*23.VI.1996. Шпіталь КГБ.*

* * *

Жыць хочацца, бадай што, як ніколі,

тым больш любіць, тым больш, калі вясна,

тым больш, калі ў цябе дачка на волі,

тым больш, калі яе ў цябе няма…

*VII.1996. «Амэрыканка».*

* * *

Такая ціхая і сьціплая,

на шыі крыжык залаты,

вяртаеш ты мяне, асіплага,

зноў да жыцьця і пекнаты.

*1996. Шпіталь КГБ.*

* * *

Не гані пургу, начальнік,

я табе не крымінал,

я прыгожага шукальнік,

я – пачатак, ты – фінал.

Я ірву душу на часткі,

ты вязаць канцы мастак,

я ўнікаю хітрай пасткі

на ральлі, як чорны грак.

Эх, з кайданнага я племя,

кантралёр табе імя,

мае ногі прагнуць стрэмя,

твае рукі – рамяня.

І таму, як ні ўсьміхайся,

як мне ў вочы ні хлусі,

скажа некалі: «Зьбірайся!»

І табе ДэПээНСІ.

*6.VII.1996.*

* * *

Няма куды бегчы, таварыш,

закрытыя захад і ўсход,

падпісаны ордэр на арышт,

пастаўлены штамп: «У расход».

Настроены вораг рашуча,

ды толькі і ты не слабак,

і ўголас ты сьмела і гучна

гаворыш пра ўсё, што ня так.

Але ўжо і словаў замала,

і значыць настала пара

выходзіць насустрач вандалам

пад сьпеў партызанскіх гармат.

**Малодшаму сяржанту Віталю, сядзельцу 4-й камэры СІЗО КГБ**

Сядзіш за скрадзены цэзій,

а мог бы за Беларусь,

маўклівы і негарэзьлівы

барысаўскі беларус.

Яшчэ толькі ўчора быў ты

малодшы сяржант БэА,

у форму як быццам уліты,

як быццам ты ўжо камбат.

Яшчэ толькі ўчора... а сёньня

ты разам са мной сядзіш,

сьціскаеш роспачна скроні,

хістаесься ды маўчыш.

Ты думаў, што шыта-крыта
адбудзецца справа, аднак,
ня выйшла ў цябе са збытам,
і спраўдзіўся дрэнны знак.

І раз ужо так прыйшлося –
давай ня плакаць, ня ныць,
давай рабіць, каб збылося
усё, што павінна быць.

*12.VIII.1996.*

* * *

Канчаецца лета. Яблычны спас.
Пра Афрыку марацЬ птушкі.
Ах, як жа на волі прыгожа ў вас!
Ах, як жа за кратамі скрушна.

У вас там кажуць пра новы стыль
(«Прадай Радзіму» назвалі).
А мы тут гніём, як падвальная цьвіль,
як брудная пена хвалі.

У вас там нардэпы ідуць у бой
з «усенароднаабраным»,
а мы тут штодня становімся ў строй,
штодня залізваем раны.

Мы тут прырастаем грудзьмі да нар,
мы тут заціхаем дачасу,
а ноччу смакуем чыфірны ўзвар
усёй арыштанцкай расай.

На волі ў гародчыках астры і кмен,
нясьпелы агонь каліны,
а ў нас на прадоле нахабны мент
пагардліва цыркае сьлінай.

Яму дазволена, ён «круты»,
цяпер ён сіла і права,
а нам застаецца – грудзьмі на драты,
худым абліччам у гравій.

А нам застаецца нічога і ўсё –

турэмная вош і Радзіма,

і наша нянавісьць, зь якой мы расьцём

насустрач рэжыму.

*7.IX.1996. Віцебскі цэнтрал, камэра 60.*

* * *

Ізноў кастрычнік. Час пасадкі дрэваў.

На саджанцах раса дрыжыць,

а ты,

ты ўспамінаеш падарожжа ў Крэва,

значэньня стратэгічнага масты,

любімы шлягер, інтэрнат, свабоду,

турму, сабак, іржавыя драты,

супраціўленьне мужных, слабых згоду,

неадэкватнасьць зла і дабраты;

ты ўспамінаеш, як заходзіць сонца,

як на цэнтрал навальваецца змрок,

як з вымені каровінага ў донца

струменем б’е антысухотны сок.

Ах, памаць, памяць! Файная ўласьцівасьць,

яна табе ня дасьць асатанець,
яна сілкуе годнасьць і гідлівасьць
да усяго, што западло цярпець.
Ты ўспамінаеш, як цьвітуць вяргіні,
як лес шуміць, як асядае пыл
на жыта прыдарожнае, як гіне
блакітны чмель у белай конскай грыве,
як баба ў лазьні свой шаруе тыл;
ты ўспамінаеш, як шманалі «хату»,
як ты ня стаў з рукамі на сьцяну,
як дапамог твайму блатному «брату»
жывот ускрыць, прачнуўшыся ад сну.

**У судзе**

Ізноў адклалі суд

(калядныя вакацыі).

На волі маразы,

у камэры смурод.

Радзіму прадаюць

мэтодай трансплантацыі

пад шыльдай індульгенцыі

пад назваю «народ».

А я, сяджу я ў камэры,

на мне фуфайка чорная,

на мне шузы ад фраера

і стрыжачка «пад нуль».

Нібы матор за бампэрам,

я сьцяўся, супакойваю

свой рухавік з прадсэрдзямі,

у страўніку шумы;

ня лаюся з суседзямі,

і толькі дух настройваю

паводле верша ўласнага

на хвалю барацьбы.

*26.XII.1996. У боксе Віцебскага абласнога суда.*

## Ён

Бойся яго, ня бойся –
ён побач, і над, і пад.
Штодня ён прыходзіць у госьці,
твой самы «старэйшы брат».

Ён любіць тваю жанчыну
і вечна прагне яшчэ,
ён ходзіць крокам качыным,
альбо як дровы сячэ.

Спакойна яму і сьпіцца,
і соладка п’ецца яму,
тутэйшы начальнік паліцыі
яго ня кіне ў турму.

Ён любіць гасіць плявочкамі
агмені самотных душ
і пільнымі шэрымі вочкамі
глядзець скрозь садовы плюшч.

Ён пляга твая адвечная,
штодзённы твой госьць у дом,
і ты, як лаза надрэчная,
праходзіш праверку на злом.

* * *

Студзень. Спачатку марозны,

потым адліга і бруд,

потым кашаль грыпозны,

карцэр, камэра, суд…

*27.I.1997.*